Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару **25** грошай.

**№ 25.** **Вільня, 7 верасьня 1927 году.** **Год I.**

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц — 1 зл., на 3 месяцы — 3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку — 120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4 — 35, за 1/8 — 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Ад рэдакцыі.

**З прычыны рэарганізацыі працы ў рэдакцыі і пераходу ў новую друкарню, — 25 нумар „Беларускага Дня“ выходзіць заместа суботы 3-VIII— у сераду 7-VIII.**

## АБ З'ЕЗДЗЕ АКТЫЎНЫХ ПРЫХІЛЬНІКАЎ „БЕЛАРУСКАГА ДНЯ“.

У падзвычайна цяжкіх варунках агульнага разброду і заняпаду беларускае грамадзкае думкі, у паветры, атручаным дэмагогіяй і нацыянальнаю варожасьцю распачала сваю трудную працу наша часопісь. Яна ня была і ня ёсьць органам нейкае скарасьпелае палітычнае „групы“, ці „групкі“, якіх шмат развялося за апошнія гады на нашым беларускім віленскім завулку. Не *сэзонную* палітыку мы распачалі паўгода таму назад, — а трудную працу *грамадзкага узгадаваньня* беларускага сялянства. Мы сказалі сабе: няхай розныя „групы“ і дзеячы грызуцца паміж сабою, няхай спэкулююць на нізкіх інстынктах паваенных часоў, — няхай слухаюць чужацкіх „агентаў“ і выконваюць іхнія загады, — наша справа у тым, *каб павясьці сялянскую думку і волю на шлях адраджэньня яго гаспадаркі, на шлях пазытыўнае творчае працы.* Па меры сваіх сілаў — мы гэтую задачу выконвалі і сялянства, не гледзячы на тое, што нас з усіх бакоў цкавалі розныя ворагі беларушчыны, аценіла „Беларускі Дзень“ як *сваю* газэту, шануе яе і шанаваць будзе.

Але хоць „Б. Д.“ і вельмі крытычна адносіўся да працы розных істнуючых беларускіх палітычных „крамак“ — ад *здаровае палітычнае прапаганды ён не ухіляўся.*

Ідэя незалежнае, злучанае Беларусі на падставе братэрскага сужыцьця і супрацоўніцтва беларускага народу з іншымі народамі — вось наша пуцяводная ідэя, якой „Б. Д.“ служыў і служыць будзе.

І заслугаю нашае часопісі з'яўляецца тое, што прышчапляючы гэтую здаровую ідэю беларускаму народу, — яна не зачыняла сваіх вачэй на тыя труднасьці, якія чакаюць беларусаў на шляху да ажыцьцяўленьня гэтае ідэі.

Яшчэ у першым нумары „Б. Д.“ мы сказалі: толькі народ дужы эканамічна і духоўна можа лічыць на поўнае дасягненьне

сваіх нацыянальных ідэалаў. Гэтым мы як бы намецілі той шлях, па якому беларускі народ мусіць ісьці да свае незалежнасьці. І гэты шлях палягаець не на байкоце суседняга польскага народу — не на барацьбе і вайне з ім, не на абвастрэньні ненавісьці і шавінізму. На гэты згубны шлях хочуць пхнуць беларусаў ворагі Беларусі і іх агенты, бо незалежнае Беларусі ніколі не пабудуем на руінах незалежнае Польшчы. Наша думка, як раз наадварот палягаець на тым, што *Беларусь можна пабудаваць толькі у сувязі з адраджэньнем Польшчы*, і іншых суседніх народаў, з якімі беларускі край зьвязаны ня толькі гістарычна, як край забраны маскоўскім імпэрыялізмам і ім зьнішчаны, *але і эканамічна* і культурна. Нам беларусам можа не падабацца палітыка польскага ўраду, палітыка таго ці іншага міністра, ваяводы — і г. д. Гэта зусім натуральная з'ява. Але у сваёй апазыцыі мы не павінны пераходзіць тае мяжы, за якою пачынаецца здрада незалежнасьці. Мы можамо крытыкаваць польскі ўрад і павінны гэта рабіць, дамагацца сваіх правоў, жадаць каб урад ішоў на сустрэчу эканамічнаму і культурнаму адраджэньню тае часткі Беларусі, якая знаходзіцца у межах Польскае дзяржавы, — але падрываць незалежнасьць Польшчы мы ня можам і ня маемо на гэта права, як не маемо права падрываць ідэю незалежнае Літвы, Латвіі і іншых, бо павінны на Польшчу і на польскі народ глядзець ня толькі праз акуляры сягодняшняга дня, але і прыймаць пад увагу мінулае і галоўнае *будучыну*. Мы павінны разумець, што з польскім народам мы будземо вечнымі суседзямі — і павінны дабіцца таго, каб былі саюзьнікамі а не ворагамі, як таго хочуць чужынцы. Мы сягодня падкрэсьліваем гэтую думку, якую выказваў паўгода „Б. Д.“, выказваў можа няўмела і ня сьмела. Падкрэсьліваем яе сягодня дзеля таго, каб наш чытач ведаў чаго мы хочам і куды ідзём. Праўда, сучаснасьць на „Крэсах“ не такая яшчэ вясёлая, каб гэтая думка магла лёгка прышчапіцца беларускім масам. Праўда, шмат ёсьць польскіхураднікаў і паліцэйскіх, якія дыскрэдытуюць польскую незалежную дзяржаву перад нашым народам. Але ўсе гэтыя паасобныя факты, якіх можа нават і шмат, не даюць яшчэ нам права паліць масты паразуменьня палякоў і беларусоў, якое мусіць наступіць і наступіць з неўхільнасьцю жалезнага закону. Гэтага не разумеюць шмат якія беларусы, трудна прабіваець сабе шлях гэтая думка і у масы польскага грамадзянства. Але гэта не павінна нас пужаць — наадварот яшчэ больш ўпарта мы павінны ісьці да мэты, бо не праз нацыянальны байкот і ненавісьць, а праз супрацоўніцтва можамо залажыць моцны грунт пад гмах гаспадарчага, культурнага і палітычнага адраджэньня нашага Краю.

Шэсьць месяцаў наша часопіс вяла прапаганду гэтых ідэй сярод беларускага сялянства. Гэтая праца не пайшла на марна. Па розных кутках нашага края мы маемо сваіх прыхільнікаў. І нашым сьвятым абавязкам з'яўляецца не даць загінуць першым усходам нашае працы. Наадварот. Мы павінны сабраўшыся разам намеціць плян працы нашых аднадумцаў надалей. Справа школьнае і агранамічнае асьветы, справа сельска - гаспадарчах гурткоў (kółek rolniczych) у працы якіх беларусы павінны прыймаць актыўны удзел, справа самаўрадаў, пажычковых таварыстваў, шмат, вельмі шмат насьпела тых практычных пытаньняў не кажучы аб пытаньнях палітычных, якія павінна асьветляць наша часопіс. І вось каб мацней зьвязацца з беларускай вёскай і лепш ёй дапамагаць, у рэдакцыі „Беларускага Дня“ паўстала думка склікаць пасьля сяўбы з'езд актыўных прыхыльнікаў „Беларускага Дня“. Гэтую думку не раз высоўвалі нашы чытачы і карэспандэнты ў сваіх пісьмах да нас, — значыць гэтая думка ўжо насьпела і трэба яе правясьці ў жыцьце.

---

# Аб З'ездах нацыанальных меншасьцяў.

## I.

Першы з'езд нацыянальных меншасьцяў адбыўся у Жэнэве у 1925 гаду. Ініцыаторамі гэнага з'езду былі латышскія немцы.

Пасьля шэрагу нарад ініцыятараў з'езду з прадстаўнікамі паасобных меншасьцяў, на гэны першы зьезд былі запрошаны: 1) Беларусы з Польшчы, 2) Чэхі з Аўстры, 3) Датчане з Нямеччыны, 4) Літвіны з Польшчы, 5) Немцы: з Чехаславацыі, Даніі, Эстоніі, Югаславіі, Літвы, Латвіі, Польшчы і Італіі, 6) Палякі: з Чэхаславацыі, Літвы, Латвіі, Нямеччыны, 7) Расейцы: з Эстоніі, 8) Сэрба-Лужычане: з Аўстры і Італіі, 9) Шведы з Эстоніі, 10) Украінцы: з Чэхаславацыі і Польшчы, 11) Вэнгерцы з Чэхаславацыі, Югаславіі і Рымуніі, 12) Жыды: з Чэхославацыі, Літвы, Латвіі і Польшчы.

З запрошаных — Шведы зусім ня прыехалі, а Беларусы, Літвіны і Украінцы хаця і прыехалі у Жэнэву, але удзелу у працах з'езду не прымалі.

Рэзультаты I-ага з'езду зьявіліся да прыняцьця чатырох толькі рэзалюцыяў, прынятых усімі сябрамі з'езду і бязумоўна не апраўдалі тых надзеяў, якія пакладалі на з'езд яго ініцыатары. Вось гэныя разалюцыі: Першая з іх гавора аб нацыянальна—культурнай свабодзе, якая зьяўляецца гэткім самым духоўным скарбам цывілізованага сьвету, як і свабода веры і дзеля гэтага прынцып гэны павінен знайсьці сваю рэалізацыю усюды у дзяржаўных законах.

Другая рэзалюцыя гавора, што кожная нацыянальная меншасьць мае права да свайго нацыянальнага развіцьця у межах сваіх уласных юрыдычна-публічных арганізацыяў.

Трэцьця рэзалюцыя зварочваецца да Лігі Нацыяў з просьбай, каб яна пільна занялася урэгуляваньнем справы нацыянальных меншасьцяў у сэнсе прынятых першых дзьвох рэзалюцыяў з'езду.

У чацьвертай рэзалюцыі зьезд выражая падзяку усім міжнародным арганізацыям, якія займаюцца вырашэньнем нацыянальных праблем. Прыглядаючыся працам зьезду і усім тым дыскусіям якія на ім вяліся прыходзіцца прыйсьці да пераканаьня, што німа йшчэ таго цэмэнту, які мог бы зьвязаць усе нацыянальныя меншасьці на грунце якой-небудзь паважнай пазытыўнай працы. Прычынай гэтага зьяўляецца насам перш вялікая розніца палітычных інтэрэсаў кожнай паасобнай нацыянальнай меншасьці, інтэрэсаў, якія іншы раз знаходзяцца у поўнай супярэчнасьці.

Няпрыняцьце удзелу у працах зьезду Беларускай, Літоўскай і Украінскай нацыянальных меншасьцяў, прычынай каторай быў адказ прэзыдыуму з'езду паставіць на парадак дня справу аб праве нацыянальных меншасьцяў на самавызначэньне,—ужо сам сабою гаворыць шмат аб гэных супярэчнасьцях. Але і паміж сябрамі з'езду, якія датрывалі на з'езде да канца супярэчнасьці гэныя падчас прац з'езду, зарысоўваліся вельмі часта. Гэтак напрыклад нацыянальныя меншасьці Польская, Дацкая і Сэрба-Лужычанская дамагаліся ад з'езду прыняцьця асобнай рэзалюцыі аб лёяльнасьці нацыянальных меншасьцяў да дзяржавы у якой яна жывець, чаго рэшта сяброў з немцамі на чале прыняць не хацела кажучы: што лёяльнае супрацыўніцтва нацыянальнай меншасьці з дзяржавай, у якой яна жыве, зьяўляецца асноўным абавязкам, кожнай нацыянальнай меншасьці, які разумецца сам сабою і дзеля гэтага не вымагае прыняцьця асобнай рэзалюцыі. Тая-ж самая група не падала сваіх галасоў за рэзалюцыю аб культурнай аўтаноміі нацыянальных меншасьцяў,

---

# Голка.

*Расказ.*

Пан Харашэўскі прад люстэркам, стаячым на камодзе, даканчываў сваю туалету. Паправі́ўшы караватку і закруціўшы памазаныя нейкай пахнючай памадай, свае тонкія, быццам мышыныя хвосьцікі, белыя вусы, ён адступіў крок назад ад люстэрка, пры́глядзеўся, падаўся ўперад, насупіў бровы, міргнуў сваімі шэрымі вачамі і, падпёршыся рукамі ў бакі, застыў, быццам каменная фігура, прыглядаючыся ў люстэрка. Адтуль, скрозь плямкі ад мухаў, выглядаў твар яго. Крывое люстра так пакруціла яго, што толькі чалавек, гэтак добра знаёмы з гэным тварам, як знаёмы быў з ім пан Харашэўскі, мог прызнаць яго за адбітак свае істоты. Левая шчака выглядала адтуль апухшай, правая вока глядзела ў адзін бок, левае — другі; заместа брыва над правым вокам сядзела нейкая бародаўка, губы пакруціла гэтак, што засталася толькі адна палова іх, а другая недзе зусім прапала, адзін толькі нос, здаецца, застаўся ў люстэрку такім, якім яму быць было трэба, бо нават і караватка, хаця была зусім да сябе падобная, але надзіва разам з шыяй падпаўзла пад самыя губы, так што здавалася быццам караватку і шыю пан Харашэўскі трымаў у сваіх зубах. І падабенства гэнае было гэтак вялікае, што нават пан Харашэўскі, які добра знаў усе штукі свайго люстэрка, нават і ён на адну хвілінку паверыў люстру і, каб праканацца, што гэта толькі жарт яго, выцягнуў шыю і левай рукой пацягнуў уніз караватку, а правай правёў паміж падбародкам і шыяй, а калі рука прайшла свабодна, не зачапіўшы караваткі, глянуў сярдзіта і адвярнуўся. Пан Харашэўскі зьбіраўся ў Адамполь да пана Тыднёнка на імяніны.

Тыднёнак ужо даўно разам з усімі Шчарсоўскімі афіцыялістымі паклікаў і яго.

Гэта было два тыдні таму назад і ад гэтага часу быццам нешта ўкусіла пана Харашэўскага. Ён страціў ахвоту да яды, начыма, заместа таго каб спаць, толькі круціўся з боку на бок, днём то задумваўся гэтак, што слова ад яго ня можна было дабіцца, то зноў нападалі на яго хвіліны нейкай незразумелай і дзіўнай радасьці і шчасьця і тады ён сьмяяўся бяз усялякай прычыны, і пяяў, пяяў бяз устанку сваю любімую песьню:

| | |
|---|---|
| Пойдзеш ты гарою,<br>Пойдзеш ты гарою,<br>А я нізінай.<br>Зацьвіцеш ты рожай,<br>Зацьвіцеш ты рожай,<br>А я калінай. | Ты будзеш паняй,<br>Ты будзеш паняй<br>У вялікім двары,<br>Я-ж манахам буду,<br>Я-ж манахам буду,<br>Замкнуся ў муры! |

лічучы, што культурная аўтономія зьяўляецца добрай для нацыянальных меншасьцей эканамічна дужых і багатых, а для эканамічна слабых і бедных—зьяўляецца шкоднай.

Так! першы зьезд развеяў надзеі на магчымасьць згуртаваньня усіх нацыянальных меншасьцяў на плятформе якой небудзь пазытыўнай працы, выказаў поўную немагчымасьць стварэньня і прыняцьця некага кодэксу нацыянальных меншасьцяў, нейкіх законаў, якія ў кожнай дзяржаве і да кожнай нацыянальнай меншасьці маглі быць датарнованы, гэтак вялікімі былі супярэчнасьці паміж паасобнымі нацыянальнымі меншасьцямі у розных дзяржавах. І гэта добра адчувалі самыя сябры з'езду, бо з'езд нават не пакінуў пасьля сябе якога небудь выканаўчага органу, даручаючы скліканьне новага зьезду свайму прэзыдыуму.

Апрача натуральных супярэчнасьцяў паміж паасобнымі нацыянальнымі меншасьцямі, якія выявіліся на зьездзе, прычына гэткіх мізэрных рэзультатаў І-га зьезду крыецца яшчэ і ў тым, што ініцыятары і правадыры з'езду — немцы, склікаючы з'езд, мелі на мэце ня гэтулькі аб'яднаньне усіх нацыянальных меншасьцяў на грунце нейкай пазытыўнай працы, колькі свае асабістыя інтарэсы, падпарадкованыя палітычным уплывам Бэрліну.

Адным словам, склікаючы зьезд, немцы хацелі апанаваўшы яго, выкарыстаць нацыянальныя меншасьці для палітычных комбінацыяў свайго „фатэрлянду" — нямецкай дзяржавы. Гэтым тлумачыцца тое, што не ўсе нацыянальныя меншасьці Эўропы былі пакліканы на з'езд а пераважна тыя толькі, палітычныя імкненьні каторых ня йшлі у разрэз з палітыкай нямецкай дзяржавы.

Вось гэты недахоп здаровай ідэі у самых арганізатараў з'езду быў таксама аднэй з прычын няўдачы першага з'езду нацыянальных меншасьцяў.

Пасьля першага з'езду ў 1926 годзе адбыўся другі, ў 1927 годзе у жніўні месяцы трэці зьезд, аб каторых раскажам у чарговым нумэры.

*І.*

## ХТО Я?

Я — сын Вялікага мільённага Народу,
Я — сын вялізнай стараны,
Якой ужо цяжэе год ад году
Нясьці ярмо прынукі і маны.

Я — сын людзей калісьці вольных,
Я — сын магутных палачан,
Я — сын людзей, цяпер бяздомных,
Якіх скаваў нявольніцтва туман.

Я — сын вялікае сям'і працоўных,
Нашу я імя — беларус;
Хачу з усімі правоў роўных,
Я зьненавідзеў ўжо прымус.

Я беларус — імя сьвятое,
Я горды ім, бяз конца горды я,
Яно мой скарб, яно мне дарагое,
Яно ёсьць сутнасьць маяго жыцьця.

Я горды з роднае краіны,
З яе балотаў, курганоў —
Яны мне родзяць успаміны
Пра славу прошлую дзядоў.

Гарджуся я сваім Народам,
Які скідае ўжо прымус
І йдзе уперад з кожным годам,
Гарджуся ім; я — беларус!

*Вітэблянін.*

---

Пачне пяяць, выводзячы жаласьлівыя ноты песьні і дайшоўшы да словаў „замкнуся ў муры", уздыхне цяжка-цяжка, задумаецца і зноў слова ад яго не даб'ешся.

— „Закахаўся пан Харашэўскі" — жартавалі з яго таварышы".

Але ён не адказваў нічога, толькі рабіў нейкую паважную таёмную міну, уздыхаў і думаў.

І запраўды было аб чым думаць пану Харашэўскаму. Тыднёнак меў дачку, Антосю. Яна вучылася ў Вільні ў гімназіі, і ў Адамполь прыяжджала толькі на канікулы. Яе пан Харашэўскі бачыў толькі адзін раз і з першага спатканьня Антося глыбока запала ў душу пана Харашэўскага. Здалася яна яму істотай з іншага сьвету. Гэткая маленечкая, далікатная, белая, а вочы!

Ня вочы, здаецца, а само неба глядзела з іх на пана Харашэўскага.

Гэта было ўлетку, каля касьцёла.

—Вось, Антося, пазнайся з прыгожым дзяцюком, гэта пан Харашэўскі, бугальтар Шчарсоўскі,— казаў усьмяхаючыся пан Тыднёнак.

Пан Харашэўскі пачырванеў, як вішня, уся кроў набегла яму ў галаву, пакланіўся і ня ведаў што сказаць.

— Ах, ужо гэты пан Тыднёнак скажа, — думаў пан Харашэўскі — „прыгожы дзяцюк;" ці-ж можна гэтак казаць? І ён то чырванеў, то бялеў, як папера, хацеў нешта сказаць і ня мог, толькі стаяў і кланяўся, украдкай пазіраючы ў васільковыя вочы Антосі, якая так сама засарамонілася, пачырванела і ня ведала, што рабіць далей.

— Ну што, як? ці прыгожая дзеўка?!—ня унімаўся пан Тыднёнак, міргаючы да пана Харашэўскага.

Сьвет пасьля гэтых словаў закружыўся ў вачох пана Харашэўскага. Трэба было нешта адказаць. Але ці-ж можна так проста казаць тое, што шаптала сэрца?! І пан Харашэўскі ня памятуе ўжо, як пан Тыднёнак з Антосяй сеў ў каламажку, як коні рухнулі з месца, толькі апамятаваўся тады, калі ўбачыў, як з воза ўпала хустачка. Пан Харашэўскі, быццам пярун, наляцеў на хустачку, як віхар падняў яе з зямлі і, птушкай дагнаўшы каламашку, падаў хустачку Антосі. Антося глянула на яго, але як глянула! У гэным паглядзе Антосі ён вычытаў усё, — а „вельмі дзякую," выляцеўшае з рожавых губак Антосі, пацьвярдзіла, здаецца, ўсё, што казалі вочы.

— І я дзякую, — азваўся пан Тыднёнак, бо дасталася-б мне ад маё старое, каб згубіў хустачку. Сярдзітая яна ў мяне, — і кажучы гэта пан Тыднёнак схаваў хустачку ў кішэнь.

— Ну, рухай, Сымон!—крыкнуў ён хурману.

## Да сваіх карэспандэнтаў і чытачоў.

Лічучы патрэбным склікаць нараду актыўных прыхільнікаў „Б. Д.“ рэдакцыя просіць ўсіх сваіх карэспандэнтаў і чытачоў, якія-б хацелі прыняць удзел у гэтай нарадзе паведаміць ея своечасова пісьмом, у якім падаць дакладны адрас. Пажадана, каб у пісьме кожны выказаў свае думкі, што да тэрміну з'езду і якія пытаньні павінны быць абгавораны на ім.

# Аб паляпшэньні сялянскае долі.

Паміж нашага сялянства распаўсюджана перакананьне, што дабрабыт земляроба залежыць выключна ад колькасьці зямлі, на якой кожны паасобны земляроб вядзе сваю гаспадарку і дзеля гэтага лёзунг розных палітычных партыяў, якія хочуць прыдбаць сабе прыхільнасьць сялянства: „уся зямля для тых, хто на ёй працуе“ — зьяўляецца вельмі популярным і разглядаецца, як адзінае лякарства на тую беднасьць і гора, ў якім знаходзіцца значная частка нашага малазямельнага, альба зусім безьзямельнага сялянства. Разумеючы добра, якое вялікае значэньне для паляпшэньня дабрабыту нашага сялянства мае надзяленьне дробных сельскіх гаспадарак зямлёю да тэй колькасьці, каб гаспадарка запраўды магла пракарміць земляроба і зьяўляючыся староньнікамі вырашэньня аграрнага пытаньня ў тым сэнсе, каб магчыма больш зямлі перайшло ў рукі тых, хто на ёй працуе, мы хочам у гэнай стацьці зьвярнуць увагу, што пераход нават усей зямлі ў рукі працоўнага сялянства не зьяўляецца радыкальным лякарствам на беднату і што лякарства гэнае можа палепшыць дабрабыт працоўнага сялянства толькі на пэўны, вельмі нядоўгі час, які залежыць ад вялічыні натуральнага прыросту насельніцтва.

Пры натуральным гадавым прыросьце 4 людзей на кажную сотню, што для нашага краю будзе блізкім да праўды, ужо ў працягу 25 год тая самая зямелька мусіла-б пракарміць удвая больш людзей, і калі-б за гэны час людзі не наўчыліся дабываць з зямлі больш дабра, то ведама, пасьля 25 год, сялянства зрабілася-б у два разы бяднейшым. Што гэта так, ніхто хіба спрачацца ня будзе. Аб гэтым найлепш ведаюць сотні тысячаў нашых дробных, малазямельных гаспадароў, дзяды якіх сядзелі на вучастках па 20 дзесяцінаў. Вось дзеля гэтага зразумела, што галоўная ўвага нашага сялянства павінна быць зьвернута на тое, каб наўчыцца больш дабра дабываць з зямлі. У гэным адзіны ратунак нашага сялянства, гэта адзіны шлях вызваленьня яго ад гора і бяды.

Гэтага не разумелі нашыя дзяды, і ў спадчыне пакінулі ўнукам сваім гора і нэндзу, гэтага не разумеець яшчэ і цяпер аграмадная частка нашага сялянства, якое на ўсе воклікі пераходзіць да рацыянальнай гаспадаркі неяк безнадзейна разводзіць рукамі, маючы адзін толькі адказ: „як дзяды гаспадарылі, гэтак будзем гаспадарыць і мы“. Не, дзяды нашы гаспадарылі дрэнна, яны ня ўмелі дастаць з маці-зямелькі ўсё тое, што, пры ўменьні і працы, дастаць з яе можна і, ідучы іх шляхам, для дзетак сваіх і ўнукаў, мы гатуем тую самую долю, якую прыгатавалі яны нам і нашым сьвятым абавязкам перад маладым пакаленьнем зьяўляецца наўчыць яго лепшай гаспадаркі, наўчыць яго, як выдзіраць з зямелькі скрытыя ў ёй скарбы, бо бяз гэнае навукі, бяз гэнай веды, ніякія аграрныя рэформы не палепшаць долі сялянства.

Аб шляхох, якія вядуць да гэнае мэты мы раскажам у наступных артыкулах.

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

Коні рухнулі, і пан Харашэўскі застаўся адзін з сваімі думамі і з васільковымі вачамі Антосі ў душы. Цяпер, спамінаючы гэну хвіліну, хваля шчасьця і радасьці наплывала ў душу яго, то зноў ён чырванеў і сароміўся, што гэтак не знайшоў тады для яе ні воднага слова. Божа мой, „ці прыгожая дзеўка?“ - прыпаміналіся яму словы пана Тыднёнка.— Ці прыгожая?—думаў сабе пан Харашэўскі і ў вачох яго паўставаў чароўны вобраз Антосі, і ён заглядаўся на яго і маўчаў, а з глыбіны душы быццам адказ на гэнае пытаньне ўціснуліся словы, вычытаныя ім у нейкай кніжцы: „Як вясна ты, і толькі дзіўлюся, што краскі не растуць пад тваімі стапамі, птушачка ты залатая, ты шчасьце, аб якім заўсёды я малюся!“

Ох так, шчасьце! Але ці для яго гэнае шчасьце? І туткі прыпамінаў ён пагляд Антосі і ў вушах чуў салодкі звон яе словаў, які зьмяшчаў у сабе больш, чым сказалі губы. Але можа гэта памылка?—О не, сэрца ня мыляецца ніколі!— шаптаў пан Харашэўскі. — А чаму тады памылілася? — шаптаў нейкі іншы голас; — думаў тады што хустачка Антосі, а то бацькі была. І сумна рабілася пану Харашэўскаму, і цёмным тады здавалася яму сонца яснае і бачыў ён Антосю „паняй у вялікім двары“, аб якім пялялася ў песьні, вокал слугі, лёкаі, а яна стаіць пасярэдзь гэнае роскашы сумная, прыбітая горам, васільковыя вочы Антосі глядзяць у сьвет далёкі, шукаючы таго шчасьця, якое можа даць толькі каханьне.

А там недзе далёка, замкнёны ў мурох, бедны манах, адрокшыся ад сьвету, прыкленчыў перад крыжам і моліцца аб шчасьці Антосі. Гэта ён, пан Харашэўскі. І неапісальны боль рваў на шматкі сэрца пана Харашэўскага і горка плакаў ён у думках сваіх над сваёй і Антосінай доляй.

Іншы раз зноў усе гэныя страшныя думкі здаваліся быць толькі творам фантазіі яго, бо запраўды чаму-ж не магла любіць яго Антося, а нават. . . нават быць яго жонкаю? Шак, пан Тыднёнак маёнткаў ня мае, а так сама, як і ён, служыць у Шчарсоўскага графа. Праўда, больш зарабляе, але і ён, пан Харашэўскі, таксама не малая фігура — бугальтар!

І гэная далікатная, белая, прыгожая Антося, істота з іншага сьвету, рабілася адразу нейкай дастатнай яму і блізкай. І гэтак мучыўся доўга пан Харашэўскі паміж надзеяй і безнадзейнасьцю, паміж жыцьцём і сьмерцяй, ажно паехаў аж у Вільню да слаўнай варажыхі.

(*Працяг будзе*).

**Шастун.**

# Крызыс сярод праваслаўнага духавенства.

Савецкія газэты перад некалькімі днямі падалі весткі аб тым, што часовы патрыяршы сынод у Маскве прызнаў савецкую ўладу. „Пасланьне“, якое выдаў у зьвязку з гэтым мітрапаліт Сергій, які мае часова правы Галавы усей Праваслаўнай Царквы ў С. С. С. Р., было падпісана яшчэ 5-ма арцыбіскупамі і 1 біскупам. У „Пасланьні“ падпісаныя арцыбіскупы на чале з мітрапалітам Сергіем ад імя Новага Сыноду заяўляюць, што Праваслаўная Царква ў С.С.С.Р. прызнала законным Савецкі Урад і заклікаюць да прызнаньня яго ўсе праваслаўныя абшчыны ў С.С.С.Р. і заграніцай, як і ўсё праваслаўная духавенства. Між іншым, у пасланьні знаходзім такія звароты, як „на выпадак вайны, Царква ўсімі сіламі і мерамі будзе падтрымліваць радавы ўрад“. З другога боку Радавы Урад быццам заявіў, што ў хуткім часе будзе апрацованы новы закон, рэгулюючы палажэньне праваслаўнай царквы ў С. С. С. Р.

Выступленьне мітрапаліта Сергія зьяўляецца бязумоўна не малой сэнсацыяй; эмігранцкія расейскія колы сустрэлі яго з вялікім заклапатаньнем. Бо Праваслаўная Царква да гэтай пары, выключаючы „жывацаркоўнікаў“, была ў опозыцыі да савецкай улады.

Перад тым, каб перайсьці да ацэны гэтага, трэба некалькі слоў сказаць аб палажэньні Праваслаўнай Царквы ў С. С. С. Р. наагул.

У краі „дыктатуры пролетарыяту“ ўсякія справы рэлігійнага характару ня маюць ніякага позытыўнага значэньня. Наадварот, адным з догматаў камуністычнага рэжыму якраз ёсьць барацьба з рэлігіяй. „Рэлігія — гэта опіюм для народу“, вось лёзунг кожнага камуністага. І дзеля гэтага, мы былі і зьяўляемся сьведкамі тае бязьлітаснае крывавае барацьбы камуністых з духавенствам усялякіх рэлігіяў, а перад усім з праваслаўным. Ці трэба ўспамінаць аб усіх гвалтах, дакананых бальшавікамі над духавенствам. Даволі ўспомніць аб тым, што робяць толькі такія Т-вы як „Безбожник“, аб сотнях збесчэсчаных сьвятыняў, успомніць аб тысячах расстрэленых духоўных, аб тым, што і цяпер яшчэ 117 біскупаў і вышэйшых духоўнікаў сядзяць у турмах, або засланы на Салавецкія астравы.

Ня можа быць ніякае мовы аб тым, што саветы зьмянілі сваю палітыку ў адносінах да царквы. „Паразуменьне“ з мітрап. Сергіем проста з іх боку хітрасьць, пры помачы якой яны хочуць яшчэ болей паглыбіць крызыс праваслаўнае царквы. З другога боку, камуністыя хочуць зварушыць пасыўныя адносіны да сябе вёскі, якая ніяк ня можа і ня хоча прыстасавацца да пануючага ладу. Пролетарызацыя вёскі, усялякія „смычки“ і „лицом к деревне“ асталіся толькі пустымі словамі. Кансэрватыўнае сялянства ў агромнай сваёй масе асталося нячулым на дабрадзействы камуністых. А бачачы гвалты, якія даконваюцца над верай, якая для сялянства ня ёсьць пустым словам, тым болей варожа адносілася да камуністых. І вось гэтай дарогай, нібыто паразуменьня з царквою, камуністыя стараюцца зламаць пасыўны настрой вёскі на сваю карысьць.

Ня трэба забывацца аб тым, што ў сягоньняшніх часох такія „пavароты“ правадыроў царквы, не канечне цягнуць за сабой масы. Нам здаецца, што сялянства ня пойдзець за вышэйшымі царкоўнікамі і ў праваслаўных наступіць раскол.



# Бальшавікі і анархістыя.

У зьвязку з хваляй пратэстаў усяго цывілізованага чалавецтва проціў барбарскага забойства амэрыканскім судом двух анархістых Сакко і Ванцэтті, грамадзянства не магло не заўважыць аднаго вельмі яскравага факту: бальшавікі прымалі вельмі актыўны ўдзел у гэтых пратэстах ня толькі ў Расеі. Усюды, дзе толькі ёсьць агенты камінтэрну, рабіліся старанньні справакаваць работніцкія масы на рознага роду авантуры з мэтаю, каб якнайбольш запакаваць у турмы работнікаў і гэтым паказаць, што ўсюды работнікаў прасьледуюць і што ёсьць адна-адзіная краіна — гэта Савецкая Расея, дзе работнікам так добра, што лепей і ня трэба.

Каб высьветліць фальшывую пазыцыю, якую заняў камінтэрн у справе Сакко і Ванцэтті, досыць прывясьці вынятκі толькі з аднаго нумару органу расейскіх анархістых-камуністых, які выдаецца ў Парыжы і носіць назоў „Дело Труда“. Дык вось у № 22 за сакавік месяц 1927 г. ў гэтым органе анархістых зьмешчаны ў аддзеле „Россия“ такія артыкулы: „Голодовка анархистов в Тобольском политизоляторе“, „Соловки возрождаются“ і г. д. Падаём бяз зьмены тое, што піша „Дело Труда“ аб адносінах бальшавіцкае ўлады да анархістых і социялістых. У артыкуле „Голодовка анархистов в Тобольском изоляторе“, паміж іншым, напісана: „У канцы верасьня мінулага (1926) году адміністрацыя палітычнае турмы ў Табольску хацела ўвясьці яшчэ больш строгі рэжым. *Палітычныя вязьні-анархісты запратэставалі проціў гэтага.* Тады савецкая адміністрацыя налажыла на вязьняў розныя кары, як гэта робіцца з крымінальнымі злачынцамі. У адказ на гэтае барбарства 26 анархістых аб'явілі галадоўку. *Пасьля дзевяцёх дзён галадоўкі* адміністрацыя змушана была ня ўводзіць новага рэжыму, а палітычныя вязьні, засаджаныя ў карцэр, былі звольнены. Аднак, праз некалькі дзён анархістыя Гурэвіч і Аксэльрод былі перавезены ў Маскву, *там аб'яўлены крымінальнымі злачынцамі* і сасланы на Салавецкія астравы.

З гэтага відаць, што ў аднэй толькі турме, у Табольску, бяз усякае віны сядзіць на катаржным рэжыме 26 анархістых. Газэта „Дело Труда“ падаець і прозьвішчы гэтых анархістых. Гэта: Сакалоў, Лісіцын, Бяляеў, Юнсун, Шэхтман, Допэнко, Дзьякоў, Лобэ, Брайнін, Смолянэў, Пятросін, Громаў і іншыя.

У Яраслаўскім вастрозе, як аб гэтым піша „Дело Труда“, адбылася ў лістападзе 1926 году такая гісторыя: анархісты селянін Грыгор'еў хацеў скончыць сваё жыцьцё самагубствам, хацеў спаліць сябе. Яго таварышы, заўважыўшы гэта, патрэбавалі ад адміністрацыі пераводу яго ў другую камэру, дзе сядзелі яго таварышы анархістыя, якія падтрымалі гэтае трэбаваньне галадоўкай... Бальшавіцкая адміністрацыя не зьвярнула ўвагі на гэта. У выніку барацьбы анархістага Грыгор'ева хворага і няпрытомнага схапілі і вывязлі ў Маскву. Далейшы лёс невядомы.

## Ліст у рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактар!

Прашу не адмовіць надрукаваць у паважанай, рэдагаванай праз Вас газэце ніжэйпададзенае:

Ужо даўно да мяне даходзяць чуткі, што гэтак званныя б. грамадаўцы закідваюць мне розныя абвінавачаньні чыста маральнага характару. І вось цяпер у зьвязку з тым, што ў № 43 газэты „Наша Праўда“ ад 31 жніўня г. г. у зацемцы „Клюб беларускай інтэлігэнцыі“ упамінаецца мае імя, як „галоўнага сьведкі абвінавачаньня у справе грамадаўскіх пасloў“, — маю гонар заявіць, што у сучасны момант апрацоўваю і у хуткім часе цадам да публічнага ведама праз друк падрабязны адказ на ўсе тыя закіды, якія робяцца мне з боку „Грамады“.

Па высьвятленьні ўсяе мае асабістае справы гатоў стаць перад грамадзкім судом з умоваю, што судзьямі будуць людзі бязстаронныя, прыхільнікі ідэі незалежнасьці Беларусі, ў ліку якіх павінна быць ня менш палавіны беларусаў, карыстаючыхся агульным давер'ем і пашанаю і што суд гэты адбудзецца ў любым пункце зямное кулі, апрача СССР.

З другога боку, апрача суда нада мною, буду дабівацца так сама грамадзкага суда над некаторымі цэнтральнымі фігурамі „Грамады“, процію якіх маю цяжкія закіды здрады Беларускаму Народу і антымаральных паступкаў у адносінах да іначай, як яны думаючых беларусаў.

З пашанаю *М. Гурын.*

Вільня, 7-X 1927.

## Навакол Польска-Літоўскага паразуменьня.

Нямецкая прэса вельмі цікавіцца Польска-Літоўскімі адносінамі. Апошнімі днямі яна выдрукавала шмат артыкулаў аб гэтай справе. Найбольш цікавай зьяўляецца гутарка карэспондэнта „Фоссішэ Цайтунг“ з прафэсарам Ковенскага Унівэрсытэту Гэрбачэўскім, які нядаўна вярнуўся ў Літву з Польшы. Між іншым праф. Гэрбачэўскі заявіў:

„Пакуль што, можна думаць толькі аб паразуменьні чыста эканамічным.

Польшча пайдзець на большыя уступкі, ніж аб гэтым думаець Літва. Але для гэтага патрэбна зьмена польскае палітыкі ў Літве...

*Толькі сваячасная згода паміж Літвою і Польшчаю можа ўратаваць Літву ад Польскае окупацыі.* Вельмі магчыма, што Пілсудскі скліча Віленскі Сойм і створыць аўтаномную віленскую вобласьць“.

Гутарка праф. Гэрбачэўскага з прадстаўнікамі літоўскае прэсы яшчэ больш цікавая.

„Павінен заявіць,—сказаў прафэсар Г.,—што я вельмі задаволены рэзультатамі свае паездкі ў Польшу. Польская грамадзкая думка і настроі палітычных колаў Польшчы зьмяніліся ў бок мірнага вырашэньня Літоўскага пытаньня.

Калі-б Літва згадзілася аб'явіць першая аб сваіх мірных тэндэнцыях, дык Польшча, я ў гэтым пераконаны, зрабіла-б вельмі важныя палітычныя і эканамічныя прапазыцыі“. Прапазыцыі гэтыя, па думцы Гэрбачэўскага, былі-б такія: віленскі вокруг быў бы выдзелены з Польшчы, як аўтаномная адзінка з сваім Соймам, а потым можна было-б пачаць беспасрэдныя зносіны з Коўнам.

---

У артыкуле „Соловки возрождаются“ напісана: „Пасьля расфарміраваньня Салавецкага концэнтрацыйнага лагеру для палітычных, 5 чалавек было пакінута разам з крымінальнымі. Прычыны гэтага невядомыя. Не адзін раз гэтыя пяць галадавалі, але гэта ні да чаго не прывяло. Яны былі пакінуты ў Салоўках да канца свайго сроку. Праз нейкі час лік палітычных у Салоўках стаў павялічвацца. Пачалі прыбываць *грузінскія социяльдэмакраты, армянскія дашнакі, анархістыя, эс-эры* і інш.*). Цяпер лік палітычных (гаворыцца аб 1926 г.) у Салоўках дасягаець 100 чалавек і з кожным днём лік гэты павялічваецца. З гэтае сотні на Салоўках знаходзіцца 30 грузінскіх социяль-дэмакратаў, 5 армян, *12 анархістых*, эс-эр Сарокін, левы эс-эр Сперанскі і іншыя. Усяго абвінавачваецца у належнасьці да розных партыяў 60 чалавек. Рэшта абвінавачваецца ў належнасьці да сялянскага саюзу моладзі, да бой-скаўтаў (сыоністыя). Гэтых апошніх ня лічаць палітычнымі вязьнямі і трымаюць у над'звычайна цяжкіх варунках. Яны адтрымліваюць крымінальны пай, павінны кожны дзень уставаць на работу. На гэтым грунце у Салоўках не адзін раз пачыналіся галадоўкі тае, альбо іншае групы палітычных вязьняў. Але падчас галадовак зьдзекі бальшавікоў яшчэ больш павялічваюцца. Тых, што галадуюць, на трэці дзень пераводзяць у агульную камэру, дзе сядзіць 100—180 чалавек крымінальных. Робіцца гэта з мэтаю памучыць вязьня і адбіць у яго ахвоту бараніць свае чалавечыя правы. Калі галадоўка цягнецца доўга, — больш як дваццаць дзён — пачынаюць карміць сілаю; *калі-ж хто бароніцца, б'юць.* Галадоўкі палітычных цягнуцца на Салоўках 15—18 дзён. У лістападзэ і сьнежні месяцы адзін анархісты галадаваў *36 дзён.* І, ня гледзячы на гэта, яго просьбы і трэбаваньні ня былі здаволены.

З гэтых апісаньняў відаць, што анархістых у турмах Савецкае Расеі больш, як трэба. У адным Салавецкім Лагеры іх 12, у Табольску 24. А колькі-ж анархістых сядзіць ува ўсім Савецкім Саюзе? Добра было-б, каб „Мопр“ падаў хоць статыстыку, без апісаньня тае трагэдыі, якую перажываець кожны вязень, які сядзіць у савецкай турме толькі за свае перакананьні. Трэба адзначыць яшчэ адно: шмат анархістых было расстрэлена ў 1918, 1919 і ў 1920 годзе, а на Украіне расстрэлы анархістых адбываюцца і цяпер. Дык пасьля ўсіх гэтых фактаў ці не выглядаюць усе протэсты бальшавікоў процію казьні Сакко і Ванцэтті, як подласьць, бо-ж на руках барбараўчэкістых больш у сто разоў крыві анархістых і социялістых, чымся на руках амэрыканскіх барбараў.

*В.*

---

*) Паміж салавецкімі вязьнямі знаходзяцца так сама і некаторыя беларусы, асуджаныя у зьвязку з працэсам Лістапада. Як перадаюць нам знаёмыя Ф. Алехновіча, апошні так сама сасланы у Салоўкі. Апрача гэтага у Салоўках знаходзіцца беларус Чыжэўскі — беларускі ахвіцэр.

# Апошнія навіны.

## Контр-забойства ў савецкім пасольстве у Варшаве.

Прайшло ня шмат часу пасьля забойства радавага пасла ў Варшаве, Войкава, як ізноў варшаўскае савецкае пасольства стала арэнаю крывавага парахунку. Як кажуць газэты, 2 верасьня а 11 гадзіне раніцы, ў савецкае пасольства зьявіўся віленскі жыхар Язэп Трэйковіч і зажадаў ад супрацоўніка гэтага пасольства, Сяргея Гусева. дапушчэньня да кіраўніка пасольства, Ульянова.

На адмоўны адказ Гусева, Трэйковіч кінуўся на яго і ударыў нажом ў твар. Пасьля схапіўшы са стала кнігу кінуў яе ў партрэт Леніна. Тады супрацоўнік савецкага пасольства Гусев вынуў рэвольвар і зрабіўшы некалькі выстрэлаў палажыў Трэйковіча трупам. Трэйковіч быў сынам Язэпа і Аляксандры і лічыў 20 гадоў.

Забіты быў праваслаўны. Бацькі ягоныя памёрлі ужо даўно, а браты загінулі у Расеі.

Трэйковіч пасады ніякае не займаў, бо быў заможны. Кватэра Трайковіча была цалком завешана царскімі партрэтамі. У яго пакоі на першым пляне віселі партрэты цара Мікалая і патрыярха Ціхана. У Варшаву ён прыехаў у аўторак, выкліканы лістам нейкай Кэндзерскай.

У апошнія часы Трэйковіч пагражаў саветам, перасылаючы савецкім павадырам пагражаючыя лісты.

## Адчыненьне сэсіі Рады Лігі Народаў у Жэнэве.

На урачыстым паседжаньні, якое адбылося 1 IX 27 г Рада Лігі Народаў пастанавіла разглядзець паміж іншым у працягу бягучае сэсіі справу компэтэнцыі мяшанаго Трыбуналу румынскавэнгерскага, потым справу армянскіх уцекачоў, далей справаздачу ураду па справам апекі над грэцкімі уцекачамі, і розныя гданскія справы.

## Амэрыка ня хоча прадаваць аружжа Саветам.

Карэспандэнт Нью-Іоркскаго „Таймса“ ў Вашынгтоне падае, што перагаворы, які вяліся радавымі установамі ў справе куплі ў Злучаных Штатах 150 тыс. карабінаў стрыманы дзеля адмовы дэпартамэнту Штата на вываз гэтага аружжа.

## Дзе пачнуцца Польска-Літоўскія перагаворы?

Літоўскія газэты паведамляюць, што польскалітоўскія перагаворы пачнуцца ў Жэнэве падчас сэсіі Лігі Нацыяў. З гэтаю мэтаю у склад абодвых дэлегацыяў увайдуць асобы, якія добра ведаюць польска-літоўскія адносіны.

## Выстаўка беларускай і ўкраінскай прэсы.

Як ужо паведамлялася у адным з апошніх нумароў нашай газэты, Славянская Ліга у Польшчы арганізуе ў Варшаве выстаўку беларускай і украінскай прэсы. Выстаўка мае ахапіць усе беларускія газэты выдаваныя ў Польшчы, Літве і на Радавай Беларусі. Распачнецца яна 15 верасьня і трываціме да 27 г. м.

Некаторыя беларускія часопісі выслалі ужо свае экспонаты.

# Рух у Эўропе проціў кары сьмерці.

У адказ на барбарскае забойства, у Амэрыцы Сакко і Ванцэці ў Эўропе пачынаецца грамадзкі рух проціў кары сьмерці. Пад уплывам гэтага руху, група францускіх соцыялістых у нясла ў парлямэнт проект закону аб скасаваньні кары сьмерці. У Швайцарыі парлямэнцкая камісія пастанавіла большасьцю галасоў скасаваць кару сьмерці. У Даніі міністар справядлівасьці публічна заявіў, што ў новым проекце дацкіх законаў, якія будуць уведзены з новага 1928 году кары сьмерці зусім ня будзе. З іншых дзяржаваў вестак, пакуль што, няма, але бязумоўна, што з часам гуманістычны рух знойдзець прыхільнікаў усюды.

## Аб скасаваньні кары сьмерці у Нямеччыне.

Цэлы рад выбітных нямецкіх вучоных—юрыстаў падалі у нямецкі парлямэнт меморыял, у якім дамагаюцца скасаваньня кары сьмерці у Нямеччыне.

## Аб кары сьмерці у Польшчы.

Як ведама, Польшча да гэтага часу карыстаецца законамі заборцаў і свайго кадэксу законаў яшчэ ня маець. Сярод тых юрыстаў, якія прымаюць удзел у распрацоўцы новага кадэксу законаў ёсьць шмат прыхільнікаў скасаваньня кары сьмерці.

У зьвязку з агульна-эўрапэйскім рухам проціў кары сьмерці, частка польскага грамадзянства лічыць, што кара сьмерці у Польшчы мусіць быць скасавана. Сярод віленскіх юрыстаў ёсьць шмат заслужаных асобаў, якія выказваюцца проціў кары сьмерці. Найвыбітнейшым з іх з'яўляецца праф. Віленскага Унівэрсытэту Урублеўскі.

# Паводзье у Галіцыі.

Дзякуючы вялізарнаму дажджу, які ліў у працягу 24-ох гадз. ў ноч на 31-го жніўня, выйшлі з берагоў рэкі: Сан, Днестр, Стрвяжа і інш., якія залілі некалькі паветаў львоўскага ваяводства, зрабіўшы вялізарныя страты. Заліты цэлыя вёскі; зьніштожаны хлеб на полі. Размыты чугуначныя шляхі. Ёсьць чалавечыя ахвяры. Рух паміж Самборам і Дрогабычам перарваны. Барыславскі вугальны раён заліты, каля Стрыя вада сарвала дзьве запруды на рацэ Стрый і заліла места. 200 дамоў знаходзяцца пад вадой.

Перарваны чугуначны рух па лініі Стрый-Станіслаў, Станіслаў-Варохта і Станіслаў-Чортыкаў. Увесь рух ідзе па лініі Львоў-Снятынь. Па распараджэньню віцэ-прэм'ера асыгнована пацярпеўшым 500 тысяч зл. Каля 11-ай гадз. ў вечары віцэ-прэм'ер прыняў дырэктара палітычнага дэпартамэнту Сьвітальскага, які атрымаўшы рад паўнамоцніцтваў і інструкцыяў выехаў ў Львоў.

Па атрыманьні больш падрабязных справаздачаў, аб паводцы і яе рэзультатах будзе склікана паседжаньне рады мін страў, якое асыгнуе сродкі на направу прынесяных паводкай бедаў.

# З жыцьця Наваградчыны.

## Земляробскія гурткі.

Земляробскія гурткі (kółka rolnicze) абхапілі амаль усю Наваградчыну. Усе гурткі лучацца ў Ваяводзкі Саюз Земляробскіх Гуртkoў, сялібай якога ёсьць Наваградак.

Ваяводзкі Саюз земляробскіх арганізацыяў падзелены на аддзелы, на чале якіх стаяць кіраўнікі аддзелаў. Ёсьць 4 аддзелы: земляробскі, гадаўляны, агародніча-пчалярскі і арганізацыйны. Саюз утварыў і вядзець уласную ніжэйшую земляробскую мужчынскую школу, якая знаходзіцца ў Негневічах. У працягу 1926 году паасобныя гурткі адбылі 1799 паседжаньняў, на якіх чыталіся лекцыі і вяліся гутаркі аб рацыянальнай гаспадарцы.

Агулам Ваяводзкі Саюз Земляробскіх Гурткоў налічвае: 1) 8 акружных земляробскіх арганізацыяў, 2) 8 сэкцыяў пчалярска-агародніцых—сяброў 310, 3) земляробскіх гурткоў 155—сяброў 6542, 4) гурткоў кантролі хлявоў 1—сяброў 60, 5) коопэрацыйных касаў 51, 6) коопэрацыйных малачарняў 21, 7) земляробска-гандлёвых коопэратываў 8, 8) водных супалак 15, 9) цымэнтовых супалак 1, 10) мышынных супалак 1, 11) пунктаў ачысткі збожжа 16, 12) гурткоў вясковай моладзі 65 — сяброў 2637, 13) бібліятэкаў 9, земляробскіх гурткоў 26, бібліятэкаў гурткоў вясковай моладзі 26; агулам бібліятэкі налічваюць 896 томаў. Апрача таго, Саюз мае бібліятэку, якая налічвае 300 томаў.

## Дзяржаўная помач пры закладаньні садоў.

Датычна клімату і зямлі Наваградзкае ваводзтва не належыць да найгоршых. Так што можна гадаваць сады, але ведама не з такімі дрэвамі, якія растуць у цёплых краёх. Дзяржаўны Зямельны Банк даець крэдыты на куплю фруктавых дрэвак, з якіх маюць быць закладаны гандлёвыя сады. Крэдыты даюцца доўгасрочныя для тых, гаспадарак якія маюць гіпотэкі і кароткасрочныя для гасрадарак, ня маючых гіпатэкі. Крэдыты кароткатэрміновыя даюцца на 1—2 гады. Дзяржаўны Зямельны Банк даець крэдыты на падставе апініі Саюзу Земляробскіх Арганізацыяў. Крэдыт гэны розьніцца тым ад рэшты крэдытаў, што грошы не даюцца на рукі, а адразу адтрымліваюцца дрэўкі. Дзяржаўны Зямельны Банк даець крэдыты за пасрэдніцтвам коопэрацыйных касаў. Касы, па атрыманьні грошаў, перадаюць іх Саюзу Земляробскіх Гурткоў, які купляе дрэўкі. Гэткім спосабам ёсьць пэўнасьць, што ўзятыя грошы будуць выкарыстаны згодна з назначэньнем а дрэўкі, купленыя ў Земляробскіх гуртках, адпавядаюць варункам, добрых фруктовых дрэвак. Вясною гэтага году Дзяржаўны Зямельны Банк даў 55.000 зл. крэдытаў на дрэўкі. З крэдытаў можа карыстацца кожны ўласьнік кавалка зямлі адпаведнага пад гандлёвы сад.

## Гадаўляны паказ у Наваельні.

Дня 14 г. м. адбыўся гадаўляны паказ у Наваельні, Наваградзкага павету. На паказ прыведзена кароў 23, бугаёў 3, каней 12, курэй з маладымі 2 гнязда, індыкоў 2 гнязда, сьвіней 2. Разам 41.

Паказ адкрыў інж. Тэндзягольскі, высьняючы значэньне паказу. Наступна прыступлена да ацэны прысланых экспанатаў. Выдана нагарадаў на суму 150 зл. і 9 пахвальных лістоў. Награджана 15 экспанатаў.

---

Адбыўся паказ гадаўляны ў Рубяжэвічах. На паказ прыведзена 41 коні і 17 штук быдла. За лепшыя штукі выдана 6 пахвальных лістоў і пасьведчаньняў узнаньня і 135 зл.

---

10 мінуўшага месяца пан ваяв да быў у прысутнасьці начальніка земляробскага аддзелу і Наваградзкага Старасты, ў земляробскай школе ў Негневічах. Па люстрацыі школы, аглядаў ткацкія варстаты і малачарню. *З.*

# Новая коопэрацыйная будыніна.

Дня 30 жніўня адбылося пасьвячэньне першага камня фундамэнту пад будыніну Віленскага аддзелу Саюзу Спажывецкіх коопэратыў Рэчпаспалітай Польскай, каля якога гуртуецца амаль уся спажывецкая коопэрацыя Віленшчыны.

У будыніне гэтай, якая хутка вырасьце пры вуліцы Росса № 3 каля чугуначнай веткі, будуць памешчаца таварныя склады Саюзу, яго канцэлярыя, бугальтэрыя, адным словам усе установы Віленскага аддзелу.

На пляне, зробленым інжынерам В. Сыртоўтам, будыніна выглядае вельмі прыгожа.

Пасьвячэньня даканаў ксёндз біскуп Бандурскі. Паміж гасьцей прыбыўшых на гэную урачыстасьць быў намесьнік Віленскага Ваяводы пан А. Маліноўскі, судзя Ян Пілсудзкі, прэзэс Ізбы Скарбовай Я. Малецкі, прадстаўнікі коопэрацыйных установаў, прэсы і шмат іншых. Прамову распачаў біскуп Бандурскі, які у прыгожых словах падкрэсьліўшы вялізарное значэньне коопэрацыі, якая на грунце эканаміцкага жыцьця гуртуе усіх людзей і вучыць іх жыць у братэрскай любові, закончыў ае пажаданьнем Саюзу далейшай прадукцыйнай працы. Гэтая самая думка прыхільнасьці і разуменьня мэт і вялізарнага значэньня пашырэньня коопэрацыйнай працы, знайшла водгук і у прамове наместніка пана Ваяводы і ў прамовах іншых гасьцей.

Сябра цэнтральнага Ураду Саюзу прыехаўшы з Варшавы пан Рапоцкі ў цыфрах выказаў узрост гэнай запраўды вялікай коопэрацыйнай організацыі якая у 1926 годзе налічае больш як 400.000 сяброў і гадавы абарот якой у 1926 годзе дасяг больш 55 міліонаў злотых.

## Да ведама інвалідаў.

Найвышэйшы Адміністрацыйны Трыбунал 13.VI. с. г. разглядаў справу інвалідаў, зарэгістрованых пры г. зв. французскай рэгістрацыі і вынес пастанову, што гэтая рэгістрацыя дае права інвалідам дамагацца інвалідзкай рэнты. У сувязі з гэтым усе інваліды, якія былі зарэгістрованы пры г. зв. французскай рэгістрацыі і дагэтуль не адтрымалі рэнты, могуць нанова пачаць справу ў адпаведным „P.K.U.“ аб прызнаньні рэнты, паклікаючыся на пастанову найвышэйшага трыбуналу.

## Куток для мацярок.

### Аб папярэджваньні летніх ганячак.

Справа гэтая, як нам ужо вядома, мае вялікае значэньне і зусім заслужвае таго, каб яе шчыра ўзяць пад увагу. Сёньня хочам абгаварыць, галоўным чынам, справу прыгатаўленьня і перахоўваньня корму для дзяцей, кормленых штучна, а таксама і дакормліваных. Асновай штучных пажываў для дзяцей зьяўляецца каровяе малако, а калі-б да гэтага нашыя мацяркі ўмелі лепей абходзіцца з гэтым малаком, дык напэўна ўдалося-б ухіліцца ад шмат якіх расстройстваў у дзяцей у летні час. Гаспадыні нашыя замала думаюць аб тым, каб малако была магчыма чыстым! На вёсцы часта відаць каровы з шэрсьцю і хвастом, аблепленым тоўстым слоем гною.

Вымя каровы, тады як яна адпачывае, ляжыць на нячыстым, вільготным падсьціле, і нічога дзіўнага, што часьць гэтага калу і гною дастаецца да малака, а ў гэтым-жа ж кале зьмяшчаюцца мільярды драбнюсенькіх жывучак, якія разьвіваюцца ў малаку вельмі шпарка і зьяўляюцца адною з прычынаў жалудачна-кішачных хваробаў у дзяцей. Дзеля гэтага трэба дбаць перш за ўсё аб чыстаце кароў — трэба купаць іх у ставе або ў рэчцы, як гэта й робяць гаспадары з коньмі, хлеў трымаць у чыстаце, часта зьмяняючы падсьціл, вымя ў кароў перад даеньнем абмываць вадою; жанчына, якая доіць, павінна добра абцёрці пот з лоба твару, а таксама і добра вымыць рукі. Дайніцы і іншае судзьдзё, ў якое зьбіраем або зьліваем малако, таксама павінна быць чыста вымыта і перад даеньнем выпарана гарачаю вадою. Малако трэба перахоўваць у халодным, прадуўным месцы, добра прыкрытым; прызначаная для дзіцяці часьць малака павінна быць зараз-жа пасьля выдаеньня пераварана.

Там, дзе малако адтрымліваем толькі раз на дзень (у местах, шпіталях), нарыхтоўваем для дзіцяці адразу порцыю на цэлую пару, перахоўваючы малако на лёдзе, у склепе альбо прынамсі ў судзіне з халоднаю вадою, якую трэба часта зьмяняць. На вёсцы можна варыць малако пасьля кожнага ўдою, каб даць дзіцяці гэткае, якое найменш стаяла. Тады і варэньне можа цягнуцца карацей — хапае некалькіх мінут ад момэнту закіпеньня малака. Калі пераліваем малако ў бутэльку і даём яго дзіцяці праз сыску, дык — простая справа — бутэлька і сыска павінна быць таксама вываранай. Можна таксама варыць малако адразу ў бутэльках.

Варэньне гэтае здаецца клапатлівым, але гэткім спосабам ухіляемся ад падрыхтоўваньня корму кожных тры гадзіны, а таксама не пераліваем варанага малака з аднае судзіны ў другую некалькі разоў, што можа пацягнуць за сабою засьмечаньне малака. З нарыхтованай так ці йначай сутачнае порцыі перахоўванай у холадзе, бяром кожных тры гадзіны адну бутэльку, устаўляем яе асьцярожна ў гарачую ваду, каб сагрэць малако перад тым, як даваць яго дзіцяці, заместа корка насоўваем на бутэльку вывараную гумовую сыску і даём дзіцяці, каб памалу піло.

(*„Kultura“*).

## Справа пасла С. Барана.

У газэце „Н. Праўда“ пасол Баран зьмясьціў вельмі цікавае пісьмо ў рэдакцыю, у якім між іншым піша:

„У 1923 годзе я быў засуджаны Акружным Судом за нібы-то прыналежнасьць да сьпіску, які меў за заданьне, дарогай збройнага паўстаньня, стварыць Беларускую Рэспубліку,—з арт. 101 К. К. на шэсьць гадоў катаргі, а з арт. 102 К. К.— на 4 гады катаргі.

Суд Апэляцыйны адкінуў арт. 101 К. К., пазаставіўшы ў сіле чатыры гады кары, з арт. 102 К. К.

Кару гэту я адсядзеў у працягу трох гадоў і сямі месяцаў, а пазастаўшую кару—Прэзыдэнт завесіў на пяць гадоў,—не вярнуўшы правоў.

Такім чынам мяне звольнілі з турмы, але, ня маючы правоў—я стаўся **„жывым трупам“**.

Гэта, што да фактаў звальненьня з турмы.

Цяпер пазволю сабе напісаць некалькі слоў аб самым працэсе:

Пры разглядзе справы ў Судзе, я заявіў, што я працаваў для дабра свайго народу і змагаўся за яго незалежнасьць, бо гэта ёсьць мая ідэя і права кожнага народу, але я ніколі ня меў нічога супольнага з „атаманам“ Разумовічам-Хмарою і да ягонае арганізацыі не належаў і адпавядаць за іх чыны не магу.

Але мяне асудзілі. Асудзілі не на падставе канкрэтных дадзеных, а на падставе прыпушчань і опініі, якую мне зрабілі мае „прыяцелі“.

Галоўны сьведка Ленкевіч, які працаваў з Разумовічам, а потым выдаў усіх, атрымаўшы за гэта агента паліцыі, сьцьвярдзіў на Судзе, што я не належаў да гэтае арганізацыі, але ён чуў мае прозьвішча як паэта, які піша вершы. (У Суд. Сьледав. ён саўсім не ўспамінаў аба мне) і ня гледзячы на гэта—мяне асудзілі.

Я ведаў, што ў гэтым працэсе працуюць нейкія цёмныя сілы, якім я быў не пажаданы і яны ўсімі сіламі стараліся мяне „зьлёквідаваць“, але, ня маючы дадзеных, я абсалютна ня меў магчымасьці іх выкрыць.

І вось цяпер толькі мне ўдалося выкрыць тую ніць „інспіратараў“, аб якіх я ня ведаў падчас судовай расправы, як роўна-ж і ня мог ведаць аб гэтым Суд.

Аб гэтых матар'ялах я паведаміў Міністэрства Справядлівасьці, дамагаючыся расьсьледаваньня і скіраваньня маей справы ў Найвышэйшы Суд для новага разгляду справы.

Міністэрства Сррявядлівасьці мяне паведаміла лістам № 4568/26 ад 3 жніўня месяца г. г., што гэтай справе дадзены бег. *С. Баран.*

Горадна, 20 жніўня 1927.

Жаданьне пасла С. Барана мусіць быць падтрымана ўсім беларускім грамадзянствам, незалежна ад пераканаяньняў, бо справа ходзіць аб выяўленьне праўды, а трэба прызнаць, *што да гэтага часу ніхто не пераконаны ў тым, ці пасол Баран засуджаны быў правільна з пункту гледжаньня польскага права, ці адбылася судовая памылка*, бо калі Міністар Справядлівасьці даў справе ход, то значыць, у сфэрах няма поўнага пераканаяньня, што суд адбыўся правільна. Цікава была-бы, каб пасол Баран публічна заявіў аб тых „прыяцелях“ і „інспіратарах“, якім патрэбна была яга „ліквідацыя“ і надаў сваё справе грамадзкі характэр.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## Да расколу ў Беларускім Сялянскім Саюзе.

Барацьба паміж Янкай Станкевічам і Ярэмічам ня толькі ня спынілася, але паглыбляецца і прымаець больш вострыя формы. Апошнімі днямі, у зьвязку з выхадам № 1 газэты „Народ“, органу „Беларускага Сялянскага Саюзу № 2“ — „Сялянская Ніва“ выдрукавала камунікат „Беларускага Сялянскага Саюзу № 1“, у якім акцыя Янкі Станкевіча называецца „самазванай і злоснай“, сьцьвярджаецца яшчэ, што ані Янка Станкевіч, ані яго жонка, рэдактарка „Народу“, ані Шавялянка ня былі сябрамі Сялянскага Саюзу.

„Уся правакатарская акцыя гэтай тройкі інсьпіруецца чужынцамі, якія баяцца разросту сялянскае арганізацыі—Беларускага Сялянскага Саюзу. **Усё сялянства павінна ведаць, што існуе толькі адна запраўды сялянская партыя, — гэта „Беларускі Сялянскі Саюз“ на чале з пасламі В. Рагуляй і Ф. Ярэмічам, а адзіным органам Сялянскага Саюзу зьяўляецца „Сялянская Ніва“.**

„Часопісь „Народ“ не зьяўляецца органам Б. Сял. Саюзу, а органам правакатарскай шайкі, якая добрым імем Беларускага Сялянскага Саюзу, хоча спэкуляваць і пабуджваць найніжэйшыя інстынкты сярод найцямнейшых элемэнтаў проці беларускага руху“.

Так кваліфікуець Янку Станкевіча — Ярэміч з Рагуляй. Ці не занадта моцна сказана?... бо ўсім ведама, што Я. Станкевіч — гэта запраўдны барацьбіт за адраджэньне беларускага народу, а ці зьяўляецца ім Рагуля — гэта яшчэ вялікае пытаньне.

### Аднаўленьне партыі беларускіх эс-эраў.

Гэтымі днямі ў Вільні арганізованы часовы камітэт партыі беларускіх эс-эраў Заходняй Беларусі, які выпусьціў адозву да сялян, работнікаў і працоўнай інтэлігэнцыі. У гэтай адозве часовы камітэт востра крытыкуець палітыку бальшавікоў у адносінах да беларусаў на Усходе, а так сама і становішча польскага ўраду ў нацыянальным пытаньні. З крытычнымі тэзамі эс-эраў можна яшчэ згадзіцца, але нажаль, апрача крытыкі, эс-эры ў свайй адозве нічога пазытыўнага не даюць і не паказваюць беларускім масам таго шляху, па якім яны павінны ісьці ў змаганьні за сваю лепшую долю. У адозве адчуваецца брак практычнае праграмы эс-эраў; гэта зьяўляецца адным з галоўных мінусаў адозвы. Адозва канчаецца лёзунгамі, якія могуць быць прыняты вельмі сымпатычна кожным беларусам.

Але карысьць ад гэтых лёзунгаў вельмі малая, бо яны старыя і вядомыя ўсім палітычным беларускім групам, якія лічаць сябе „незалежніцкімі“. У дадатак да ўсяго вышэйпададзенага трэба ад'значыць яшчэ, што адозва зложана вельмі спакойна і далікатна. Гэта значыць, што прынамсі на бліжэйшы час, эс-эры адмаўляюцца ад актыўных палітычных выступленьняў.

### Высылка Адамовіча-Дзергача.

Вядомы атаман „Зялёнага Дуба“ Адамовіч-Дзяргач шмат каму напсаваў крыві сваімі „фокусамі“. Чалавек бязумоўна здольны, усю сваю энэргію ён пакіраваў на тэрорыстычную барацьбу з бальшавікамі. Ен стаў небясьпечным ня толькі для менскіх заправілаў, але, як відаць, і для... Польшчы. І вось цяпер, згодна загаду польскіх уладаў Адамовіч-Дзяргач высяляецца з межаў Рэчыпасплітаай. Прычына высылкі нікому невядомая, і прэса аб гэтым ніякіх фактаў не падае. Адначасна з Адамовічам выселены з Вільні два расейскія монархістыя, адзін з якіх — Рамшоў быў у свой час рэдактарам „Віленскага Утра“, а другі Мысьлін прымаў удзел у зарубежным монархічным зьезьдзе. Як паведамляюць газеты — гданскія улады не прынялі высланных і арыштаваўшы іх адаслалі назад у Польшчу. Што будзе далей з імі—невядома.

### Сяляне Жодзіскай воласьці і ксёндз Гадлеўскі.

Ксёндз Гадлеўскі быў вельмі популярным сярод сялян Жодзіскай воласьці, за якіх ён заўсёды заступаўся. Сягоньня, ў зьвязку з тым, что яго польскі суд засудзіў на два гады вастрогу, ён стаў популярным на ўсю Беларусь, як барацьбіт за беларускую нацыянальную справу.

Сяляне Жодзіскай волосьці, переконаныя ў тым, што Ксёндз Гадлеўскі невінават, падалі пэтыцыю Прэзыдэнту Рэспублікі, у якой просяць зводьніць ксяндза з турмы. На пэтыцыі некалькі тысяч подпісаў. Няведама, каму патрэбна, каб кс. Гадлеўскі сядзеў у турме. Ні нам беларусам, ні палякомм-незалежнікам гэта непатрэбна.

### Праф. Г. Гарэцкі ў Варшаве.

Як паведамляе „Н. Праўда“, ў Варшаву з нейкімі „навуковымі“ мэтамі прыехалі з Радавай Беларусі праф. сельска-гаспадарчай акадэміі ў Горках Г. Гарэцкі (брат Максіма Гарэцкага) і народны камісар землеробства РССР. Прыезд Г. Гарэцкага заслугоўвае на ўвагу таму, што ён зьяўляецца маладым і вельмі энэргічным беларускім дзеячом Усходняй Беларусі і да таго далёка... не камуністым. Па нашай думцы, прыезд Гарэцкага маець ня толькі навуковыя, але і палітычныя мэты. Добра было-б выкарыстаць прыезд Гарэцкага дзеля таго, каб даведацца ад яго, ці праўда, што беларускі пісьменьнік і драматург Ф. Аляхновіч засуджаны на сьмерць, з заменаю на дзесяць гадоў ізоляцыі ў Салавецкай турме і ці праўда, што за апошнія часы ў Менску адбылося шмат арыштаў беларускай маладой інтэлігэнцыі.

### Беларускі Народны Тэатр на вёсцы.

Газэта „С. Н.“ падае вельмі шмат цікавых корэспондэнцыяў аб тым, як вёска спаткала „Беларускі Народны Тэатр“. Агульны матыў гэтых корэспандэнцыяў—вёска усюды захапляецца беларускімі пастаноўкамі. Трэба прызнаць, што ідэя высылкі тэатру на вёску вельмі ўдалася і ці ня трэба было-б арганізаваць другое трупы беларускіх артыстаў для аб'езду вёскі, бо-ж адна пры ўсёй яе здольнасьці і энэргіі ня здолееть абслужыць усюЗаходнююБеларусь.

### Новая беларуская часопісь.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры маець у хуткім часе выдаваць м сячную часопісь. Даўно пара!

### Т-ва Беларускай Інтэлігэнцыі.

Ваяводзкія ўлады зацьвярдзілі статут Т-ва Беларускай Інтэлігэнцыі, якоё збіраецца ў хуткім часе адчыніць свой клюб.

### Газэта „Народ“.

Вышаў № 1 газэты „Народ“, якая зьяўляецца органам новапаўсталага Сялянскага Саюзу. Я. Станкевіча. „Народ“ востра полемізуець з „Сялянскай Нівай“.

---

### Цэны у Вільні на сельска-гаспадарскія прадукты на 2 верасьня 1927 году.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Жыта | 38.00—40.00 | зл. | за | 190 | кілёгр. |
| Авёс | 39.00—40.00 | " | " | " | " |
| Ячмень браваровы | 39.00—46.00 | " | " | " | " |
| Ячмень на муку | 36.00—38.00 | " | " | " | " |
| Мука амэрык. | 1.00— 1.10 | " | " | " | " |
| Мука жытняя 50 % | 65— 67 | " | " | 1 | " |
| Мука бульбяная | 70— 80 | " | " | " | " |
| Мука грачаная | 60— 70 | " | " | " | " |
| Мука ячменная | 60— 65 | " | " | " | " |
| Мяса валовае | 2.40— 2.70 | " | " | " | " |
| Цяляціна | 2.70— 3.30 | " | " | " | " |
| Бараніна | 2.30— 2.70 | " | " | " | " |
| Сьвініна | 3.20— 3.50 | " | " | " | " |
| Сланіна 1 гат. | 4.20— 4.50 | " | " | " | " |
| Сланіна II " | 3.80— 4.00 | " | " | " | " |
| Малако | 30— 35 | " | " | " | літр. |
| Сьмятана | 1.80— 2.00 | " | " | " | " |
| Сыр тварожны | 1.50— 1.70 | " | " | " | " |
| Масла несалёнае | 5.00— 5.50 | " | " | " | кілёгр. |
| Масла салёнае | 4.20— 5.00 | " | " | " | " |
| Яйкі | 1.80— 2.00 | " | " | 10 | штук. |
| Куры | 3.00— 6.00 | " | " | 1 | " |

**Варшаўская біржа — 2-XI-27.**

| | | |
|---|---|---|
| Даляры | 8,91 | 8,89 |

## З усяго сьвету.

### Сьмерць Зуглул Пашы.

Гэтымі днямі памер у Каіры ў Эгіпце барацьбіт за незалежнасьць Эгіпту Зуглул паша.

Зуглул паша быў правадыром эгіпецкай незалежнай нацыянальнай партыі. Цэлае свае, доўгае жыцьце пасьвяціў Зуглул паша барацьбе за незалежнасьць свайго краю, змаганьню з ангельцамі, якія хацелі зрабіць з Эгіпту сваю калёнію. У 1910 годзе Зуглул паша стаяў на чале паўстаньня скіраванага проціў панаваньня Англіі над Эгіптам. Па неудачным паўстаньні Зуглул паша кіруе рухам эгіпецкіх нацыяналістаў незалежнікаў. Рух гэты прыняў больш умяркованы характар, згадзіўшыся супрацоўнічаць з ангельскімі уладамі Рух гэты што год узмацняўся і заставіў лічыцца Англію з імкненьнямі эгіпецкіх незалежнікаў. Падчас вайны Англія абвясьціла незалежнасьць Эгіпту, але засьцерагла сабе шмат канцэсыяў так, што незалежнасьць гэная была толькі фармальнаю. Пасьля вайны Зуглул паша быў некалькі разоў прэм'ер міністрам эгіпскаго ураду. Пад кіраўніцтвам яго нацыянальная і палітычная сьведамасьць грамадзянства узрастала і узмацовывалася. Адначасна узрастала варожасьць да ангельцаў за іх імпэрыялістычныя імкненьні. З гэтага повяду асоба Зуглул пашы, як правадыра незалежнікаў стала надта нявыгоднай для ангельскага ураду, які стараўся яго усімі сіламі пазбыцца. Пасьля забойства ангельскага гэнеральнаго камісара у Эгіпце, Англія ультаматыўна зажадала адстаўкі Зуглул пашы. Каб не завострываць адносінаў і ня выклікаць непажаданых скуткаў. якімі гразіла Англія, Зуглул падаўся у адстаўку. Але у новых выбарах у парлямант Зуглул правеў большасьць прыхільнікаў сваей партыі. Парлямант выбраў вялізарнаю большасьцяй Зуглула старшынёй, гэтым самым паказаў, што палітыка якую веў Зуглул, ёсьць правільнай.

Заслугі Зуглула для эгіпецкага руху вялікія. Быў ён палітыкам рэальным, які не баяўся стойка змагацца за сваю справу, як і не баяўся ісьці на кампроміс калі бачыў, што кампраміс прынясе карысьць і зьдзейсьніць ідэалы, якім праз пэлае сваё жыцьцё служыў.

*N.*

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**А. Бальцэвічу.** З вашага апісаньня ня можна пазнаць хваробы кабылы. Магчыма, што кабыла захварэла ад залішне вялікай працы. Радзім даць ёй адпачынак і адначасна напіраць нагу мешанінай тарпатыны з алеем (½ кілёгр. тарпатыны і ½ кілёгр. алею).

**Макару Сенько.** З пісьма ня можна пазнаць хваробы жарабяці. Хвароба бязумоўна будзе шкодзіць у працы.

**А. Празаровіч.** Корэспондэнцыю зьмесьцім. Просім пісаць больш аб мэліорацыі.

**Я. Тарасаў.** Зьвернецеся да Павятовага Земскага Камісара: ён вас пакіруе далей.

**П. Алексейчык.** Просьбу спаўнясм, п'ескі вышлем.

**А. Міхноўскі.** Аб варунках супрацоўніцтва паведамім пісьмом. Пішыце. — Прысланае друкуем.

**Дзед.** Чаму нічога ня пішаце. Чакаем ад Вас пісьма.

**Чычынка.** Чакаем вестак. Выслалі да Вас пісьмо, на якое, калі ласка, як найхутчэй дайце адказ.

**Рэдакцыя часопісі „Беларуская Культура“ шукаець карэктара, добра ведаючага беларускую граматыку і мову. Асабіста паразумецца можна ў рэдакцыі „Беларускай Культуры“ Ціхая 4—20, ад 12—2 гадзіны.**





Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. Друкарня Язэпа Завадзкага, вул. Сьв. Анны 3.